№ 77 (4022)

2 кастрычніка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЗАДУМАЕМСЯ...

## 2014, жнівень: 613 $
## 2015, жнівень: 427 $

*У жніўні 2015 года сярэдняя налічаная заработная плата ў Беларусі склала ў эквіваленце 427 долараў (калі пералічыць па сярэднім афіцыйным курсе Нацбанка за жнівень).*

*У жніўні 2014 года сярэдні заробак па краіне быў на ўзроўні 613 долараў. Такім чынам, за год зарплаты ў пераліку на амерыканскія грошы знізіліся на 186 долараў (мінус 30%).*

*Нам кажуць, што віной усяму сусветны эканамічны крызіс. Але чаму ў Польшчы, Літве, Чэхіі і іншых краінах не назіраецца падзення ўзроўню заробкаў? Чаму там з-за крызісу кошты ў магазінах не растуць, а зніжаюцца? Чаму сусветны крызіс метанакіравана ўдарыў па Беларусі і Расіі?*

*Расія трапіла пад заходнія санкцыі, абрынуліся кошты нафты, і ўсходняя суседка ўжо проста не здолела дапамагаць грашыма беларускаму рэжыму. Вось і ўвесь сакрэт.*

НАДВОР'Е

## Залатая восень

*2 кастрычніка ўмовы надвор'я будзе вызначаць цёплая паветраная маса з Балтыйскага мора.*

Чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Пераважна без ападкаў, толькі па поўначы месцамі невялікія кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах слабы туман. Вецер заходні, умераны, днём парывісты. Тэмпература паветра максімальная днём +12...+18°С. Атмасферны ціск будзе падаць.

3–4 кастрычніка надвор'е ў асноўным будзе вызначаць вобласць павышанага атмасфернага ціску, днём 4 кастрычніка адаб'ецца ўплыў больш цёплых паветраных мас, якія паступаюць з Цэнтральнай Еўропы. Захаваецца ўмерана цёплае, пераважна без ападкаў надвор'е. Ноччу і раніцай у асобных раёнах слабы туман.

Тэмпература паветра: 3 кастрычніка ноччу +3...+10°С, днём +13...+19°С; 4 кастрычніка ноччу +3...+8°С, днём +14...+20°С, па поўдні да +22°С.

МАНІТОРЫНГ

# Байкатаваць выбары беларусы не будуць

**Зарэгістраваны ў Вільнюсе Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) апублікаваў вынікі верасnёўскага апытання.**

*Незалежныя сацыёлагі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў пацікавіліся ў беларусаў не толькі тым, за каго яны збіраюцца галасаваць 11 кастрычніка, але і тым, як ставяцца да ідэі «русского мира», інтэграцыі з Захадам, як ацэньваюць сваё матэрыяльнае становішча. Некаторыя адказы не проста здзівілі – выглядаюць сапраўднай сенсацыяй.*

### За Лукашэнку – 45,7% галасоў, за Караткевіч – 17,9%

Як вядома, нядаўна Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта і Інстытут сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі аб'явілі вынікі свайго сумеснага даследавання, прысвечанага прэзідэнцкім выбарам. Згодна з вынікамі гэтага апытання, 86,2% беларусаў збіраюцца ісці на выбары. У НІСЭПД лічба некалькі іншая, але яна таксама сведчыць аб тым, што выбары ў Беларусі адбудуцца. 72,5% апытаных сацыёлагамі НІСЭПД заявілі, што гатовы галасаваць (36,2% адказалі «так, вядома буду», 36,3% – «хутчэй так», 16% – «хутчэй не», 7,8% – «вядома, не буду»). Прычым такія ж лічбы НІСЭПД фіксаваў летам і вясной гэтага года.

– *Паколькі паводле вынікаў усіх поствыбарных апытанняў НІСЭПД яўка на прэзідэнцкіх выбарах была большая, чым заяўлялася перад выбарамі, можна меркаваць, што і на выбарах 11 кастрычніка яўка, напэўна, перавысіць неабходны бар'ер у 50% ад колькасці ўсіх выбаршчыкаў*, – адзначаюць сацыёлагі.

Дарэчы, адно з пытанняў, прапанаваных рэспандэнтам, тычылася байкоту прэзідэнцкіх выбараў. Падтрымалі гэту ідэю 15,5% апытаных, адмоўна да яе паставіліся 27,4% рэспандэнтаў. Яшчэ 25,1% адказалі, што ім байкот абыякавы, а 26,9% увогуле пра яго нічога не чулі.

Сапраўды сенсацыйным выглядае ўзлёт папулярнасці кандыдата ў прэзідэнты **Таццяны Караткевіч**. Пры закрытым апытанні за яе гатовы галасаваць 17,9%, а па адкрытым – 7,2%. Рэйтынг Караткевіч параўнальны толькі з рэйтынгам кандыдата мінулай выбарчай кампаніі Уладзіміра Някляева. У 2010 годзе за два тыдні да выбараў за **Уладзіміра Някляева** гатовы былі галасаваць 18,4% беларусаў, за **Андрэя Саннікава** – 9,9%. На выбарах 2006 года **Аляксандру Мілінкевічу** *свае галасы*, згодна з апытаннямі незалежных сацыёлагаў, аддавалі 16,5% выбаршчыкаў, за **Аляксандра Казуліна** – 6,4%.

Сёлета свой голас за **Аляксандра Лукашэнку** мяркуюць аддаць 45,7% беларусаў. Галоўным матывам такога выбару амаль 30% назвалі тое, што "*ён мае рэальную сілу і зможа палепшыць сітуацыю ў краіне*", амаль 20% – "*ён прадстаўляе інтарэсы такіх людзей, як я*", каля 15% – "*мне даўно падабаецца гэты палітык*".

### Лукашэнка ў крызісе не вінаваты

Яшчэ адзін цікавы факт. Колькасць тых, хто лічыць, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе, з моманту папярэдняга – чэрвеньскага – апытання НІСЭПД павялічылася з 72% да 75,1%. Але, як адзначаюць у НІСЭПД, колькасць апытаных, якія абвінавачваюць у крызісе беларускія ўлады на чале з прэзідэнтам, прыкметна знізілася. Напрыклад, у снежні 2013 года Лукашэнку называлі вінаватым у крызісе 45%, цяпер – 34,1%.

Пры гэтым, паводле апытання, жыць беларусы сталі горш. Тых, чыё матэрыяльнае становішча пагоршылася, стала больш: з 37,2% у чэрвені да 42,5% у верасні. Сярэдні памер даходаў (уключаючы зарплаты, пенсіі, дапамогі і г.д.), які прыходзіўся на аднаго члена сям'і, у мінулым месяцы істотна знізіўся: з 240 долараў у чэрвені да 200 у верасні (год таму было 288 долараў).

### «Русский мир» не пройдзе

Дадзенае сацыялагічнае даследаванне высветліла вельмі важны момант: беларусы не настроены ўступаць у якія-небудзь саюзы. Прычым на фоне палітычнага пацяплення паміж Беларуссю і ЕС, якое назіраецца зараз, доля тых, хто хацеў бы бачыць нашу краіну ў ЕС, невялікая. На гіпатэтычным рэферэндуме аб уступленні ў Еўрапейскі Саюз «за» сёння прагаласавалі б толькі 27,5% беларусаў, а «супраць» – 51,9%. У той жа час на рэферэндуме аб аб'яднанні Беларусі і Расіі «за» прагаласавалі б 32,6%, «супраць» – 49,1%. Але што цікава: яшчэ ў чэрвеньскім апытанні НІСЭПД за саюз з Расіяй свой голас аддавала менш беларусаў – 28,3% рэспандэнтаў.

Пацікавіліся сацыёлагі і меркаваннем беларусаў адносна ідэі «русского мира», якой Уладзімір Пуцін абгрунтоўваў далучэнне Крыма да Расіі. Станоўча да гэтай ідэі ставяцца 35,4% беларусаў, абыякава 41,4%, 15,9% адмоўна (у чэрвені было 38,9%, 39,4%, 15,2%).

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СУД

## Колькі каштуе «пагаварыць з выбаршчыкамі» на вуліцы?

У судзе Цэнтральнага раёна пакаралі штрафамі двух экс-кандыдатаў на пасаду прэзідэнта – **Мікалая СТАТКЕВІЧА** і **Уладзіміра НЯКЛЯЕВА**, а таксама лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоля ЛЯБЕДЗЬКУ** і былога падпалкоўніка міліцыі **Мікалая КАЗЛОВА**. Падставай для пакарання сталі мітынгі ў сталіцы каля ГУМа і на плошчы Свабоды.

Што да экс-кандыдатаў, то яны ўвогуле на суд не пайшлі. Іх судзілі завочна. Мікалая Статкевіча пакаралі штрафам на 50 базавых велічынь (9 мільёнаў рублёў), а Уладзіміра Някляева – на 30 базавых велічынь (3,6 мільёна рублёў). Дарэчы, для Статкевіча гэта ўжо другі па ліку штраф за месяц – за пікет каля ГУМа 10 верасня яго пакаралі штрафам у 7 мільёнаў 200 тысяч рублёў.

Анатоля Лябедзьку судзілі за дзве акцыі – пікет каля ГУМа 16 верасня ў гадавіну знікнення Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, а таксама мітынг на плошчы Свабоды. Суддзя **Вікторыя ШАБУНЯ** лагодна ставілася да абвінавачанага, папярэджавала сведак-міліцыянтаў аб адказнасці за лжывыя паказанні, але палітык назваў усё гэта спектаклем. "*Яны тут усе выдатныя акцёры, якія сёння выконваюць адну ролю, заўтра – другую, а паслязаўтра – трэцюю. Усе яны выконваюць тое, што ім загадалі. У судовай зале знаходзіліся міжнародныя назіральнікі, вось і паступіў загад прадэманстраваць, як узорна ў нас адбываюцца суды. Але мы ведаем, як усё адбываецца насамрэч*", – сказаў палітык.

Кожны са сведак-міліцыянтаў прадэманстраваў няведанне выбарчага заканадаўства. Анатоль Лябедзька ўвесь час запытваў у іх, ці ведаюць яны артыкул 45, які гарантуе грамадзянам права падчас выбарчай кампаніі абмяркоўваць праграмы кандыдатаў, і ўвесь час атрымліваў адмоўны адказ. "*Дзіўная рэч: мой пікет яны заўважылі, а наяўнасць пікетаў за кандыдатаў іх абсалютна не зацікавіла*", – сказаў ён у судзе.

Былога падпалкоўніка міліцыі Мікалая Казлова пакаралі штрафам на 30 базавых велічынь. Былы афіцэр міліцыі наконт такога прысуду толькі і сказаў: "*Усё прадказальна, відавочна, што сведкі прайшлі інструктаж, а вось памер штрафу здзівіў... Ці ведаюць улады, у якім цяпер становішчы знаходзяцца людзі? Адкуль яны могуць узяць такія грошы?*"

**Любоў ЛУНЁВА.**

ГОРЯЧИЕ ТОЧКИ

## ...Еще в одну войну

Башар Асад обратился к Владимиру Путину с просьбой о военной помощи. Российский Совет Федерации дал согласие на использование Вооруженных сил России на территории Сирии. Решение было принято на закрытом заседании. Председатель верхней палаты парламента РФ Валентина Матвиенко сообщила ТАСС, что за решение проголосовали 162 сенатора. Противников и воздержавшихся не было. Таким образом, Россия ввязывается еще в одну войну.

ХРОНИКА

## «Правільныя» сацыёлагі

Для правядзення апытанняў па прэзідэнцкіх выбарах і грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі акрэдытацыю атрымалі шэсць сацыялагічных структур.

Гэта Інстытут сацыялогіі НАН Беларусі, Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта, Магілёўскі інстытут рэгіянальных сацыяльна-палітычных даследаванняў, Цэнтр сацыялагічных і палітычных даследаванняў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Маладзёжная лабараторыя сацыялагічных даследаванняў Рэспубліканскага саюза грамадскіх аб'яднанняў «Беларускі камітэт маладзёжных арганізацый», а таксама Інстытут параўнальных сацыяльных даследаванняў «Еўразійскі барометр».

Акрэдытацыя азначае, што толькі гэтыя сацыялагічныя службы маюць права праводзіць сацыялагічныя апытанні па выбарах прэзідэнта і грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Але незалежных і аўтарытэтных сярод пералічаных службаў няма.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## Поспех ці параза?

Згодна з даследаваннем НІСЭПД, на прэзідэнцкіх выбарах за кандыдата ад грамадзянскай кампаніі «Народны рэферэндум» **Таццяну КАРАТКЕВІЧ** па закрытым пытанні сёння гатовы галасаваць 17,9%, а па адкрытым – 7,2% рэспандэнтаў, за старшыню Ліберальна-дэмакратычнай партыі **Сяргея ГАЙДУКЕВІЧА** – адпаведна 11,4% і 4,7%, а за старшыню Беларускай патрыятычнай партыі «Беларускае казацтва» **Мікалая УЛАХОВІЧА** – 3,6% і 1,5%.

Многа гэта ці мала?

**Сяргей НІКАЛЮК**, **палітолаг**, патлумачыў "Народнай Волі":

– *У нас структура электаратару стабільная. Апазіцыйныя кандыдаты, колькі б іх ні было, цалкам могуць разлічваць на 25–30% галасоў выбаршчыкаў пры ўмове высокай яўкі. Таму я заўсёды казаў, што калі ў якасці адзінага кандыдата ад апазіцыі абраць маю жонку, то і яна – нікому не вядомы, непублічны чалавек – можа разлічваць на 30% падтрымкі. Бо галасаванне на прэзідэнцкіх выбарах у нас заўсёды пратэстнае.*

*Калі мы возьмем амаль 18% Караткевіч і дададзім да іх каля 8% Цярэшчанкі (даследаванне праводзілася, калі яшчэ сярод прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду быў Віктар Цярэшчанка), то і атрымаем "апазіцыйныя" 25%.*

*Але гэта ад усіх апытаных. Чым ніжэй будзе яўка, тым менш працэнтаў атрымае Караткевіч. Паводле маіх падлікаў, калі тыя 17% перавесці ў яўку, то атрымліваецца каля 10%. Гэта ад тых, хто ўжо канчаткова вырашыў для сябе, ці схіляецца да рашэння галасаваць за яе. А ў Лукашэнкі 57% ад тых дзвюх груп. Трэба ўлічваць, што чым менш людзей прыйдзе галасаваць, тым меншы будзе працэнт.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЧУЛІ?

## Парвём гармонік...

Кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына мяркуе, што напрыканцы 2016 года яе кар'ера завяршыцца. У гэты час у яе закончыцца працоўны кантракт.

Пра гэта чыноўніца распавяла ў інтэрв'ю парталу tut.by. Ярмошына кажа, што яна яшчэ правядзе выбары ў Палату прадстаўнікоў у 2016 годзе. А пасля гэтага закончыцца яе чацвёрты тэрмін на пасадзе кіраўніцы Цэнтрвыбаркама. Нагадаем, што Лідзія Ярмошына з'яўляецца старшынёй Цэнтрвыбаркама з 1996 года.

НУ І НУ!

# Блытаніна Мікалая Улаховіча…

## Максім Багдановіч – польскі паэт?



Сам Максім Багдановіч ніколі не лічыў сябе нікім, акрамя як беларусам. Але кандыдат у прэзідэнты Мікалай Улаховіч яго "падправіў".

Падчас анлайн-канферэнцыі на сайце «Белорусских новостей» чытач спытаўся ва Улаховіча: «Думаю, што казакі і асабіста вы ўсё ж памылкова запісалі аўтара «Пагоні» Максіма Багдановіча ў польскія паэты (з вашага папярэдняга выступлення)?».

Улаховіч рашуча адказаў: «Абсалютна не памыляюся. Сам бачыў помнік Максіму Багдановічу на тэрыторыі Польшчы як польскаму паэту".

У ТЭМУ

Падчас той жа анлайн-канферэнцыі высветлілася, што кандыдат зблытаў баптыстаў з ісламістамі.

Мікалай Улаховіч патлумачыў, чаму ў перадвыбарным тэлевізійным выступленні назваў баптыстаў небяспечнымі.

– Я іх не абражаў, – апраўдваўся Улаховіч. – Мала таго, фраза прагучала няпоўнасцю. Там было больш дакладнае вызначэнне. І гаворка ішла не пра баптыстаў, а пра накіраванасць. А за ёй я хацеў падкрэсліць, што меў на ўвазе большай часткай рэлігію мусульман, звязаную з ІДІЛ ("Ісламскай дзяржавай"). Вось і ўсё.

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

# В ожидании оттепели

Если в Беларуси не произойдет ничего чрезвычайного, то велика вероятность того, что в глазах Запада Беларусь наконец-то получит легитимного президента. О возможной отмене ряда санкций в отношении Беларуси, в том числе и запрета на въезд в ЕС Александру Лукашенко, уже сообщило агентство «Рейтер» со ссылкой на дипломатические источники. Возможно ли это?

На эти вопросы ответил генеральный директор Международного консорциума «ЕвроБеларусь» **Влад ВЕЛИЧКО.**



**– Существует ли вероятность снятия или заморозки санкций еще до завершения президентской кампании в Беларуси, на что намекнул белорусский МИД?**

– Я думаю, это маловероятно: нет ни смысла, ни оснований снимать санкции до завершения так называемой президентской кампании. Скорее всего решение по санкциям будет приниматься после 11 октября.

**– Александр Лукашенко помиловал политзаключенных, выполнив одно из 12 условий Евросоюза. Достаточно ли этого для снятия (заморозки) санкций?**

– Как ни странно, для обнуления отношений между Беларусью и Европейским Союзом этого достаточно. Дополнительным условием станет минимальная демократизация избирательного процесса, которую, если не случится форс-мажора, зафиксирует Европейский Союз. Но такие действия вызваны не изменениями внутри Беларуси, а внешними факторами, на фоне которых белорусская ситуация выглядит не такой брутальной. В общем-то, с проблемами демократии в Беларуси Европейский Союз и другие игроки готовы работать, скорее, в долгосрочной перспективе. Соответственно, для этого необходима полнота формата отношений с действующей властью.

Что сегодня может вернуть полноту отношений? Снятие самого острого вопроса, который никак нельзя было обойти, – проблему политзаключенных; условная легитимность власти, которая может быть достигнута после 11 октября. Большинство наших сограждан критически относятся к качеству выборной системы, что совсем не совпадает с оценками Европейского Союза, который смотрит на ситуацию более формально, игнорируя многие негативные явления: несвободу СМИ, мягкие репрессии против независимых гражданско-политических сил и т.п. Поэтому если не произойдет арестов, задержаний либо иных скандалов, то, скорее всего, оба фактора сыграют на разморозку официальных белорусско-европейских отношений.

**– Станет ли отсутствие брутальных ситуаций поводом для признания Лукашенко?**

– Многое зависит от ситуации после 11 октября. Если не произойдет ничего чрезвычайного, то Европейский Союз будет иметь дело с президентом, номинированным на должность после этой даты. Де-факто Европа и так имеет дело с действующей властью, и белорусские власти видят выгоды от своей легитимизации, которую они могут получить 11 октября. Никого не интересует по большому счету, что в Беларуси фальсифицирован весь институт выборов.

**– Откроет ли отмена санкций «дорогу для нормализации наших отношений с Евросоюзом», в чем всех пытается убедить белорусский МИД?**

– Смотря что понимать под нормализацией отношений. Если речь идет о том, чтобы все белорусские чиновники имели возможность участвовать в статусных мероприятиях, то отмена санкций откроет для этого дорогу. Если же говорить о нормализации отношений как о факторе партнерства, определенных договоренностях и взаимовыгодном сотрудничестве, основанном на общих ценностях, то на это вряд ли приходится рассчитывать. Для такой нормализации необходимо менять действия власти, принципы принятия решений, приоритеты внешней и внутренней политики. Но все признаки указывают на то, что здесь изменений ждать не приходится. Происходит косметическая, ритуальная нормализация, которая даст возможность тому же Евросоюзу общаться с высшими чиновниками Беларуси не в полуофициальном формате, а в реальном. Де-факто суперактивизации двусторонних отношений на новом уровне ожидать не приходится.

**– МИД рассуждает о возможном потеплении отношений с ЕС на фоне переговоров о размещении российской авиабазы в Беларуси. Возможно ли потепление двусторонних отношений в условиях российской военной экспансии?**

– Я считаю, что белорусско-европейские отношения будут развиваться независимо от аспекта военной базы. Вопрос в том, как именно подается ситуация для Европейского Союза. Думаю, белорусские дипломаты показывают переговоры о базе как вынужденную меру, и все вопросы переадресуют даже не белорусской, а российской власти. Фактор российской военной базы не будет серьезно влиять на ближайшее будущее белорусско-европейских отношений; данная проблема должна скорее рассматриваться в общей канве проблемы общеевропейской и международной безопасности. Беларусь уже ангажирована в военный альянс с Россией в рамках ОДКБ, а наличие чужих военных баз на территории Беларуси только усугубляет ситуацию.

Тем не менее я не думаю, что этот фактор сейчас способен подорвать процесс разморозки белорусско-европейских отношений.

**Алексей ЮРИЧ.**

КАНФЛІКТ

# Таццяна Караткевіч паскардзілася на Аляксандра Лукашэнку

Сёння, 2 кастрычніка, Цэнтральная выбарчая камісія правядзе пазапланавае пасяджэнне. Нагодай для яго стала скарга кандыдатаў адзін на аднаго. Калі дакладней, Таццяна Караткевіч паскардзілася на Аляксандра Лукашэнку.

Таццяна Караткевіч адзначыла, што падчас агітацыйнай кампаніі яе даверанымі асобамі і сродкамі масавай інфармацыі былі зафіксаваны парушэнні патрабаванняў заканадаўства з боку каманды Лукашэнкі.

У прыватнасці, дзяржаўныя СМІ ў паведамленнях аб выбарчай кампаніі выкарыстоўваюць элемент афармлення – графічны знак (лагатып) у выглядзе галачкі ў форме літары «V» лацінскага алфавіта, размаляванай у арнамент і колеры дзяржаўнага сцяга. *"Ідэнтычны элемент афармлення выкарыстоўваецца і ў агітацыйнай кампаніі кандыдата Лукашэнкі, што з'яўляецца схаванай формай агітацыі з боку дзяржаўных СМІ за аднаго з кандыдатаў",* – лічыць Караткевіч.

*"На 16 верасня 2015 года, паводле інфармацыі ЦВК, расходаў з выбарчага фонду Лукашэнкі не ажыццяўлялася. Указаная прадукцыя, безумоўна, з'яўляецца агітацыйнай, бо ўтрымлівае лозунг кандыдата, пад якім ён ажыццяўляе сваю агітацыйную кампанію, а таксама лагатып, які выкарыстоўваецца ў яго агітацыйнай друкаванай прадукцыі. Гэта прадукцыя скіравана на схіленне грамадзян да галасавання за пэўнага кандыдата. Аднак яна выраблена не за кошт выбарчага фонду кандыдата",* – гаворыцца ў скарзе.

Караткевіч лічыць, што *"такім чынам агітацыя за гэтага кандыдата, як і ў выпадку з выпускам партыі маек, так і ў выпадку публікацый у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі і правядзення серыі канцэртаў пад эгідай дзяржаўнага тэлеканала АНТ і Міністэрства культуры, адбываецца не за кошт выбарчага фонду кандыдата ў прэзідэнты, а ў тым ліку за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту, што з'яўляецца недапушчальным і супярэчыць патрабаванням Выбарчага кодэкса".*

Кандыдат патрабуе правесці праверку выкладзеных у скарзе акалічнасцяў і разгледзець яе на калегіяльным пасяджэнні Цэнтральнай камісіі. Таксама яна патрабуе ад ЦВК распачаць меры па недапушчэнні злоўжывання дзяржаўнымі СМІ з боку кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнкі.

Сенсацый, праўда, ад пасяджэння ЦВК чакаць не даводзіцца. Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына ўжо каментавала, што выпуск маек з'яўляецца камерцыйнай дзейнасцю, таму іх продаж, а не бясплатнае распаўсюджванне, законны. Паводле слоў Ярмошынай, каманды іншых прэтэндэнтаў таксама могуць выпускаць прадукцыю і прадаваць яе. А лагатып у выглядзе галачкі ў форме літары "V" з'яўляецца брэндам, які быў распрацаваны дзяржаўным інфармацыйным агенцтвам БЕЛТА і які выкарыстоўвае каманда Лукашэнкі, можа выкарыстоўвацца любым жадаючым, у тым ліку камандай самой Караткевіч.

ПАЛІТКУХНЯ

# Таццяне Караткевіч прад'явілі ўльтыматум: або «выбары», або партыя



Барысаўская арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) заклікала кандыдата ў прэзідэнты Беларусі і члена Мінскай гарадской арганізацыі БСДП Таццяну Караткевіч зняць сваю кандыдатуру з выбараў 11 кастрычніка. У адваротным выпадку Мінскай арганізацыі БСДП прапануецца неадкладна выключыць Караткевіч з партыі.

Выйсці з прэзідэнцкай гонкі варта яшчэ на пачатку датэрміновага галасавання, лічаць аднапартыйцы Таццяны. *«У адваротным выпадку сацыял-дэмакрат Таццяна Караткевіч і яе палітычнае асяроддзе будуць наўпрост датычныя да небяспечнага працэсу легітымізацыі пракрамлёўскага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі ў вачах многіх беларускіх выбаршчыкаў і часткі міжнароднай супольнасці. Гэта можа пахаваць усялякія надзеі грамадзян Беларусі на захаванне незалежнасці сваёй краіны і яе пераход да дэмакратыі»,* – гаворыцца ў заяве Барысаўскай арганізацыі БСДП.

*«Барысаўскія сацыял-дэмакраты таксама звяртаюць увагу кіруючых органаў БСДП на важнасць ачышчэння партыйных шэрагаў ад усіх выпадковых асоб, якія пракраліся ў структуры Грамады для правядзення чужой ёй палітыкі згодніцтва з кіруючым антыдэмакратычным рэжымам»,* – гаворыцца ў заяве.

МЕЖДУ СТРОК

# Зомбирование по пыльным рецептам Кашпировского и Чумака

Эксперты продолжают анализировать предвыборные программы кандидатов в президенты. **Александр КНЫРОВИЧ**, совладелец строительного холдинга «Сармат» и ряда компаний в сфере энергетики, прочитал программу Сергея Гайдукевича…

– Знакомство с программой кандидата в президенты Сергея Гайдукевича – очень занимательное занятие. Вроде много хороших слов – государственник, суверенитет, самоуправление, уровень жизни, интеграция. Но все попытки читающего сложить из них какую-то целостную картину, выяснить, что же именно предлагает нам бывший полковник и самый опытный (после президента) белорусский «политик», утыкаются в непроходимую чащу обтекаемых деклараций, намеков, обещаний.

Самое популярное слово на скромных четырех страницах документа – многократное (37 раз!) повторение фамилии кандидата – Гайдукевич. Не покидает ощущение «программирования», «зомбирования» избирателя по пыльным рецептам Кашпировского и Чумака.

Тем не менее попробуем на столь слабом материале представить экономику «по Гайдукевичу».

Большую часть экономической программы кандидата составляют обещания раздачи социальных «подарков» – повышение доходов всех групп населения: от приведения минимального размера оплаты труда и минимальных пенсий к прожиточному минимуму до социальных гарантий нетрудоспособным и инвалидам. Замечательные, благие пожелания. Думаю, в стране не найдется ни одного гражданина, выступающего против такого подхода к вопросу. Как же предполагает уважаемый кандидат добиться такого увеличения уровня доходов?

Буквально пять предложений Гайдукевича позволяют нам составить хоть какое-то представление о будущих контурах экономического развития Беларуси.

Единое экономическое пространство от Лиссабона до Владивостока. Не очень понятно, как это осуществимо на протяжении одного президентского срока – в пятилетней перспективе. То ли Европейский Союз осознает всю пагубность своей экономической политики и (единым пулом или отдельными странами) вступит в наше единое экономическое пространство, то ли Россия с Беларусью и Казахстаном вдруг захотят поиграть по общеевропейским правилам. Кандидат благоразумно оставляет нам поле для интеграционных фантазий.

Поддержка «легального» бизнеса. На каком основании будущий президент полагает, что эта проблема является значимой, – не понятно. Сегодня благодаря сочетанию карающих и стимулирующих действий белорусского правительства теневой сектор экономики крайне мал и не представляет какой-либо экономической угрозы.

«Хватит финансировать неэффективные предприятия!». Здесь кандидат, безусловно, прав. Действительно, государственная поддержка убыточных «флагманов» – одна из основных проблем отечественной модели. Но! Последствия отказа от поддержки – серьезная «ломка пациентов», подсевших на бюджетную иглу. Основные приметы – падение производства и высвобождение десятков и сотен тысяч работников. Что делать с последствиями? В программе не указано.

Формирование «эффективного собственника». Вероятно, за этим необходимо понимать массовую приватизацию. Других способов изменения «эффективности» собственников предприятий наука еще не придумала. И снова – способы и модели приватизации в программе не предложены.

Единственный конкретно сформулированный пункт экономической программы Гайдукевича – предложение поддержать малый и средний бизнес через предоставление права бесплатной трехлетней аренды неиспользуемых государственных административных помещений. Сама по себе мера, безусловно, правильная. Но это лишь один небольшой кирпичик в здании «развитие малого и среднего бизнеса». Очень хотелось бы взглянуть на общее архитектурное решение.

Всё! Это ВСЯ экономическая программа кандидата!

В остальном кандидат предлагает своим избирателям полагаться на «профессионалов и патриотов», которые в большом количестве имеются у него в команде. Однако конкретные фамилии, научные регалии и предыдущий опыт своих помощников Сергей Гайдукевич разглашать вовсе не желает.

Прочтение программы кандидата и особенно просмотр его предвыборного выступления по отечественному ТВ позволяют с большой натяжкой предположить, что в случае его избрания экономическая модель нашей Родины приобретет черты украинской «при Януковиче». Когда вроде бы и частный капитализм есть, однако институты как таковые не работают и все серьезные вопросы решаются исключительно через личное общение с «членами команды».

Смелые заявления на сайте партии о том, что Сергей Гайдукевич «является единственным белорусским политиком, способным составить конкуренцию действующему президенту Республики Беларусь», а также утверждение, что ЛДПБ – самая массовая партийная организация в стране, вызывают большие сомнения на фоне абсолютного отсутствия каких-либо конкретных результатов на протяжении 20-летней деятельности политика.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Такі чалавек знойдзецца!

Як могуць прыйсці перамены ў Беларусь, калі выбары нічога не вырашаюць? Гэтым пытаннем сёння задаюцца многія – і палітыкі, і аналітыкі, і журналісты, і простыя выбаршчыкі. Першы кіраўнік незалежнай Беларусі, экс-старшыня Вярхоўнага Савета **Станіслаў Шушкевіч** адказвае на гэтае пытанне так:

– Ёсць два класічныя варыянты: альбо бунт, выбух, альбо палацавы пераварот. Нашы спецслужбы так гэта адсочваюць, што шлях перавароту немагчымы. Але, ведаеце, я перажыў такі момант, што за дзве гадзіны да падпісання Белавежскага пагаднення калі б мне нехта сказаў, што я падпішу дамову аб тым, што СССР спыняе сваё існаванне, я не паверыў бы і ўзлаваўся. А тут – савецкі філосаф, марксіст-ленініст, прапанаваў такія словы, што не падпісацца пад імі было немагчыма... Бурбулис Генадзь Эдуардавіч. І, ведаеце, я кожны год яму прыношу прабачэнні, што думаў пра яго як пра марксіста-ленініста. А ён аказаўся нармальным філосафам. І ў нас знойдзецца разумны чалавек, які адшукае такі шлях.

ЧУЛІ?

# Сяргей Рутэнка пакінуў "Барселону"

Беларускі гандбаліст Сяргей Рутэнка, які апошнія шэсць сезонаў бараніў колеры "Барселоны", працягне кар'еру ў катарскім "Эль-Фалуджы".



Пра гэта паведамляе іспанская Marca.

Рутэнка з'яўляецца васьмікратным чэмпіёнам Іспаніі. Пяць сваіх тытулаў ён заваяваў у форме каталонскага клуба. А да гэтага тройчы браў золата ў шэрагах «Сьюдад-Рэала". Акрамя таго, беларус чатыры разы выйграваў чэмпіянаты Славеніі ў шэрагах "Цэле". Лідар зборнай таксама шэсць разоў перамагаў у галоўным клубным гандбольным турніры – Лізе чэмпіёнаў.

